# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 7 (581)
Ліпень 2014 г.


# Марш Паняволеных Народаў




У нядзелю, **13 ліпеня 2014 году**, адбудзецца Марш Паняволеных Народаў, што традыцыйна арганізуецца ў ліпені Камітэтам Паняволеных Народаў у рамках афіцыйна абвешчанага яшчэ ў 1959 годзе Тыдня Паняволеных Народаў – імпрэзы, якая прыцягвае ўвагу амэрыканскага грамадзтва да стану народаў, што паняволеныя камуністычнымі, а таксама пост-камуністычнымі ды кожнымі іншымі тыраніямі й дыктатурамі.

Збор у нядзелю, 13 ліпеня, **а 9-й гадзіне раніцы** ля **гатэля Пляза** на 59-й вуліцы і 5-й авэню. Адтуль удзельнікі рушаць да **Катэдры сьв. Патрыка**, дзе адбудзецца імша за Паяволеныя Народы, а потым пройдуць Маршам да **72-й вуліцы ў Цэнтральным парку**, дзе адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё Тыдня.

Ад самага пачатку ў імпрэзах Тыдня бяруць удзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі. Пасьля 1989-1991 гадоў большасьць этнічных арганізацыяў сябраў Камітэту Паняволеных Народаў, і ў тым ліку ўкраінцы, адыйшла ад актыўнага ўдзелу, мяркуючы, што свабода ўжо здабытая, і ёй нішто не пагражае.

Як бачым, гэтая "рэляксаваная" пазыцыя памылковая, і па дзьвух прычынах:

1. Свабода – гэта "штодзённы плебісцыт" (ніхто і нішто не згарантуе яе раз і назаўсёды).
2. Абавязак кожнага вызваленага народу – дапамагчы тым, хто застаецца паняволенымі. У кожным разе, запрашайце на гэтую імпрэзу вашых украінскіх, крымскататарскіх, расейскіх (не ачмураных пуцінскай прапагандай), зімбабвейскіх, віетнамскіх, кітайскіх, тыбецкіх, кубінскіх сяброў.

Пашырайце інфармацыю, паведамляйце сябрам і знаёмым!

# Купальле ў Нью-Ёрку



Група беларусаў зь Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі 21 чэрвеня адсьвяткавала традыцыйны абрад Купальля ў цудоўнай мясьціне, якая завецца Паўнд Рыдж-запаведнік, што знаходзіцца на поўнач ад гораду Нью-Ёрку. У гэтым месцы, сярод пакрытых лесам пагоркаў, знаходзяцца вадасховішчы, што даюць ваду гораду праз складаную сыстэму вадаводаў, якія былі збудаваныя яшчэ ў 19-м стагодзьдзі. У лясах водзяцца казулі, алені й нават чорныя мядзьведзі, ня лічачы розных драбнейшых жывёлаў.

Традыцыйна Купальле, якое было падрыхтавана спадарствам Ленай і Пятром Рыжымі, пачалося з абраньня Купаліша – Сьвятавіта Сокалава, і Купалінкі – ягонай знаёмай дзяўчыны. З заходам сонца быў запалены агонь

*Заканчэньне на бач. 3*

# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

Чарговы чэрвеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбыўся 14 чэрвеня. Напачатку сходу перад прысутнымі з кароткім аглядам падзеяў у Беларусі й вакол яе выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” Віталь Зайка. Ён спыніўся на асноўных тэмах навінаў апошняга месяцу – працяг перасьледу апазыцыйных сілаў у Беларусі, чэмпіянат сьвету па гакеі ў Менску, украінскі крызіс. Сп. Зайка таксама распавёў пра маючы адбыцца ў наступным месяцы Марш Паняволеных Народаў – традыцыйную імпрэзу, у якой ад самага пачатку, з канца 1950-х гадоў, бяруць удзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі з тым, каб прыцягнуць увагу амэрыканскай грамадзкасьці да праблемаў тых народаў, што апынуліся пад панаваньнем тыраніяў і дыктатарскіх рэжымаў, і ў тым ліку Беларусі, называнай “апошняй дыктатурай у Эўропе”. Нажаль, разьвіцьцё падзеяў у Расеі паказвае, што называць дыктатуру Лукашэнкі апошняй у Эўропе яшчэ зарана. Амаль 20 год Эўропа або глядзела ў другі бок, калі Лукашэнка ўзмацняў сваю непадзельную ўладу, або гуляла зь ім у гульню “закладнікі-апазыцыянэры ўзамен на адмену санкцыяў”, і ў міжчасе купляла ў рэжыму нафтапрадукты і калійныя ўгнаеньні. Ня лепш разумелі сутнасьць і мэты рэжыму Лукашэнкі й Злучаныя Штаты, пракаўтнуўшы тэрарызаваньне свайго дып-прадстаўніцтва ў Менску і хоцькі-няхоцькі ўвёўшы нягеглыя і непасьлядоўныя эканамічныя санкцыі. У бліжэйшы час цяжка спадзявацца на нейкія зьмены да лепшага.

Затым перад прысутнымі выступіў госьць Згуртаваньня “Пагоня” Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. Ён правёў аналіз сытуацыі ў Беларусі ў сьвятле не сьціхаючага ўжо каторы месяц крызісу ва Украіне, сапраўды братняй і дабрасуседзкай краіны-сястры для Беларусі.

Напачатку сп. Пазьняк прыцягнуў увагу да таго, што ёсьць рэсурсам нацыі, у чым палягае яе сіла і здольнасьць да самазахаваньня і разьвіцьця. Пры гэтым ён адзначыў, што этнас вызначаецца ў супастаўленьні да іншых этнасаў, і ў фармуляваньні адэкватнай ацэнкі ворага. Менавіта ў гэтым палягае перамога ў барацьбе за выжываньне ў той тысячагадовай вайне, якую беларусы ды іхныя продкі вядуць за сваё існаваньне.

“Вялікае Княства Літоўскае было фактычна першай у манархічна-фэадальныя часы дэмакратыяй у Эўропе. Так, гэта была дэмакратыя для вольнага саслоўя, дэмакратыя шляхецкая, але не было таго рабства, той усходняй дэспатыі, што назіралася на ўсходзе, у Маскові. І менавіта з гэтага ўсходу стала выходзіў агрэсіўны націск. Між тым шляхецкая дэмакратыя разьвівала чалавека і грамадзтва. Узьнікла рыцарства, будаваліся замкі, грамадзтва было прасякнута гуманістычнымі ідэаламі. Былі ў павазе навукі, мастацтвы. Вайсковая справа знаходзілася на вышыні, націск з усходу больш-менш пасьпяхова адбіваўся, прычым бітвы праводзіліся меншымі чым у маскавітаў сіламі. Але з часам брак цэнтралізацыі, магнацкая сваволя, а таксама запазычаньне Расеяй эканамічных і вайсковых прынцыпаў, тэхналёгіяў з Захаду прывялі да непасрэднага ўмяшаньня Расеі ды іншых двух навакольных імпэрыяў ва ўнутраныя справы Супольнасьці абодвых народаў і старабеларускай дзяржавы.



Зянон Пазьняк

Затым былі разборы, тры імпэрыі паразумеліся міжсобку і арганізацыйная перавага дыктатуры прывяла да таго, што нашая краіна стала забраным краем, акупаваным чужынцамі. Так, прыкладам, пад Воршай ужо маскоўскае войска, а сойм у Вільні яшчэ вырашае, хто будзе гетманам – галоўнакамандуючым. А ў Маскові было значна прасьцей – цар загадаў, і загад мусіць быць выкананы адразу, інакш – паляцяць галовы. У вайсковай арганізацыі ня можа быць дэмакратыі. Таму гістарычна перамога Расеі стала ня вынікам сапраўднай перавагі й майстэрства палкаводцаў, але наступствам трагічных абставінаў, зьбегу акалічнасьцяў. Расейцы адмыслова падтрымлівалі ў Вялікім Княстве магнацкую сваволю, прынцып liberum veto, куплялі сабе альянтаў сярод магнатаў-авантурыстаў. Праводзілася мэтанакіраваная палітыка для падрыхтоўкі акупацыі. І з часам адчуваньне, усьведамленьне ворага, усьведамленьне таго, што ідзе барацьба за існаваньне – было страчана. Так адбылася першая ўнутраная акупацыя. Гэта праўда, што прыйшлі расейскія войскі, але існаваўшыя мясцовыя ўлады, суды, эліты не стварылі супрацiву, а ўзяліся за працу на новага гаспадара.

Цяперашняя ўнутраная акупацыя абдываецца крыху інакш. “Праект Лукашэнка” быў ажыцьцёўлены нібы на хвалі савецкай настальгіі, на падставе дэмагогіі й проста хлусьні. І хоць расейскія войскі заўсёды недалёка, але прысутнасьць іх у самой Беларусі абмежаваная. Што важней – вырашальныя пасады абсаджаныя расейцамі, часам нават і грамадзянамі Расеі. Тады няма патрэбы ўводзіць войскі, выклікаць міжнародныя скандалы. Усё робіцца цішэй і прасьцей. Калі ж накрэсьленая схема ламаецца, як адбылося на Майдане ў Кіеве гэтай зімой – вось тады з рукава выцягваецца сілавая карта, што бачым цяпер па Крыме й усходзе Украіны.

Сытуацыя ва Украіне мае непасрэдны ўплыў на падзеі ў Беларусі. Лукашэнка пачынае адчуваць межы, якія накрэсьліў яму Пуцін. Калідор магчымасьцяў для манэўраваньня, што так майстэрскі навучыўся скарыстоўваць Лукашэнка, робіцца што вузейшы. І калі адбудзецца наўпроставая вайсковая акупацыя – крымскі сцэнар – калідор гэты зьнікне назусім. І вось менавіта да такога варыянту прывяла антынацыянальная палітыка Лукашэнкі. Калі ў галовы беларусам убівалася, што яны – “расейцы са знакам якасьці”, што яны й расейцы – “адзін народ”, дык тады Лукашэнку ня трэба дзівіцца, што крымскі сцэнар прыйдзе да яго. Кіруючаму кляну кэгэбэшнікаў у Расеі будзе проста немажліва супрацьстаяць спакусе, каб замацаваць крымскі посьпех, працягнуць “зьбіраньне расейскіх земляў”. І вось менавіта да такога разьвіцьця падзеяў павінны быць гатовыя беларускія нацыянальныя сілы, бо менавіта такім ёсьць вынік 20-гадовага кіраваньня Лукашэнкі.

І тут я скажу тое, што не казаў ніколі – беларусы ў выпадку адкрытай акупацыі мусяць брацца за зброю. Мусяць ствараць канспіратыўныя струк-

Заканчэньне на бачыне 6

# Вытокі расейскага фашызму

*Зянон ПАЗЬНЯК*

Для беларусаў вельмі важна зараз, калі адбываецца расейска-ўкраінская вайна, правільна зразумець становішча, магчымыя наступствы для Беларусі і вызначыць прыярытэты ў дзеяньнях.

Маё меркаваньне, што ў Расеі сыстэмна разьвіваецца расейскі фашысцкі рэжым. Палітыка рэжыму: пашырэньне тэрыторыі, падпарадкаваньне Эўропы, падрыхтоўка атамнага ўдару і 3-й Сусьветнай вайны. Тое, што пачнецца такая палітыка, было ўжо зразумела ў 2000 годзе, калі абсалютную ўладу ў Расеі загарнуў КГБ. Нашыя партыйныя спробы ў той час папярэдзіць заходняе грамадзтва і палітыкаў аб патэнцыйнай небясьпецы вынікаў не далі. На Захадзе не разумелі важнасьці праблемы.

Тут трэба адзначыць істотны момант. У штучным, інсьпіраваным Расеяй, супроцьстаяньні Захаду і Расеі палітычная інтэлектуальная перавага ёсьць на баку расейцаў. Найперш гэта выяўляецца ў ацэначным падыходзе. Расейцы добра разумеюць Захад, ягоную палітыку і матывы дзеяньняў. Тым часам Захад, трэба прызнаць, у сваіх ацэнках Расеі вылучаецца абмежаванасьцю, ягоныя падыходы, як правіла, павярхоўныя, неадпаведныя, часта неадэкватныя.

Пасьля перамогі Майдану ва Ўкраіне пуцінскае кіраўніцтва, добра ведаючы аслабленасьць Эўропы і цяжкасьці ЗША, тут жа беспакарана пачало брудную вайну супраць Украіны. Ні Ўкраіна, ні Захад (з прычыны сваёй непадрыхтаванасьці і, адпаведна, няздольнасьці дзейнічаць) не аб'явілі нават расейскую агрэсію вайною, чым паспрыялі акупантам – хуткаму захопу Крыма, інсцэніроўцы ягонай анэксіі, дывэрсійнаму ўварваньню ў Данбас і фармальнаму выхаду з-пад дзеяньняў міжнароднага заканадаўства (бо вайна ідзе, але фармальна яе як бы няма, яна не названая вайною). Ваенны напад на Ўкраіну сталі называць "тэрарызмам", "сэпаратызмам", "бандыцкімі фармаваньнямі", а некаторыя заходнікі нават "паўстаньнем" і г. д. Тым часам расейцы зламалі ўкраінскую мяжу, 10 тысячаў расейскіх дывэрсантаў і баевікоў топчуцца ў Данбасе, забіваюць украінцаў, а крамлёўская дыпляматыя з размаху абвінавачвае ўкраінскае кіраўніцтва ў парушэньні нормаў міжнароднага права, крычыць пра недазволенасьць выкарыстоўваць войска супраць "тэрарызму" (маўляў, расейцаў крыўдзяць).

Эмоцыі супраць расейскай ілжы, цынізму, хлусьні становішча не зьмяняюць. Расейская дыпляматыя апэлюе да міжнароднага права, якое, на іхнюю думку, мусіць асудзіць выкарыстаньне войска Ўкраінаю і павінна падтрымаць расейцаў, бо гэта ж , маўляў, не вайна, а толькі "тэрарызм", расейскія нападнікі, узброеныя да зубоў, маўляў, нават не дывэрсанты, яны ж усяго "тэрарысты", якія напалі на Ўкраіну, і ўкраінскае войска ня мае права іх зьнішчаць. Вы чулі такое!

У гэтакае абсурднае становішча, нажаль, паставіла Украіну яе часовая ўлада разам з разгубленым Захадам.

Зразумела, што яно ўсё ня так проста. Але на сённяшні дзень трэба канстатаваць факт пэўнай выніковасьці расейска-фашысцкай агрэсіі ва Ўкраіне. Крым яны захапілі. Крымскае ўзьбярэжжа і марскі шэльф багатыя радовішчамі нафты і газу. Тут ляжыць будучая энэргетычная самастойнасьць Украіны, якую пуціністы, па іх словах, цяпер "адцяпалі". Ва ўкраінцаў пасьля выбараў прэзыдэнта яшчэ ёсьць шанец усё перавярнуць, паставіць з галавы на ногі і выкаваць перамогу пры падтрымцы ўсяго сьвету. Будзем спадзявацца на лепшае. Але мушу сказаць, што ўсё залежыць ад Украіны, ад яе кіраўніцтва і народу. Спадзявацца на Захад – небясьпечная ілюзія.

Да пуцінскай агрэсіі супраць Украіны шмат якія людзі жылі фальшывымі ўяўленьнямі пра Расею. Спрацоўвала яшчэ савецкая акупацыйная прапаганда пра "брацкія народы", "дружбу", "мір" і т. п. Цяпер вочы расплюшчыліся ўсяму сьвету. Таму вельмі важна ведаць дакладна сутнасьць гэтага ворага чалавецтва і разумець, што ад яго можна чакаць.

Крыніца фашызму месьціцца якраз у расейцах, у расейскай мэнтальнасьці, у складзе розуму, у асаблівасьцях грамадзтва.

Характэрнасьць расейскага грамадзтва, якая бярэ пачатак яшчэ ад мангольскай арды і пацьверджана мноствам гістарычных фактаў – гэта ксэнафобія і нянавісьць да ўсяго нярускага сьвету. Сьвет, маўляў, варожы. Усе народы рэальна ці патэнцыйна ёсьць варожыя Расеі. Усе ня рускія, а таму "ня нашыя". Усе горшыя, бо не такія, як мы. У прынцыпе, ні адзін "ня рускі" народ ня варты павагі. Псыхалёгія вандроўнікаў-манголаў (сацыяльных папярэднікаў расейцаў, іхняга мэнтальнага субстрату) была заснавана якраз на такім ксэнафабічным сьветапоглядзе заваёўнікаў прасторы. Для манголаў пэрыяду агрэсіі ўвесь сьвет – ворагі, якіх трэба зьнішчыць, заваяваць і ісьці "да апошняга мора". Культура і сьведчаньні цывілізацыі былі для варвараў ненавісныя, зьнішчаліся імі начыста, бо нагадвалі аб іх варварскай ніжэйшасьці ад ворагаў. Псыхалёгія эгалітарызму (раўненьне па ніжэйшым) бярэ свой пачатак адтуль, ад сутыкненьня агрэсіўных варвараў з цывілізацыяй.

Эгалітарная агрэсія расейцаў (маскоўцаў), памножаная на ксэнафобію, фармавалася стагодзьдзямі прыніжанага падмангольскага існаваньня. Манголам не было справы да ідэалёгіі, гнёт існаваў на асобасным сацыяльным узроўні. Маскоўскі князь-васал мусіў асабіста прывезьці хану ясак разам са сваёю жонкаю, якую хан "пробаваў". Не прывёз жонкі – "секір башка". Таму – вазілі. А ў завяршэньне хан выходзіў з шатра, маскоўскі князь мусіў укленчыць і апусьціцца на чатыры канечнасьці перад ханскім канём; хан паступаўся нагою на плечы князя, як на прыступку, і сядаў на каня. Усё, князь быў вольны, мог вяртацца ў сваю Маскву.

Які псыхалягічны тып маскоўца фармаваўся ў выніку такіх дачыненьняў, якая лютая рабская злосьць, якую трэба было сарваць на ўсім сьвеце, – зразумела.

Шалёная злосьць і жорсткасьць маскоўскіх князёў, цароў, ваяводаў і, увогуле, маскоўцаў, уражвала сучасьнікаў і гісторыкаў, уражвае і цяпер. У наш час яна выплюхнулася ў бальшавізме, у сыстэме ГУЛАГ, у злачынствах НКВД, цяпер выяўляецца ўжо ў Данбасе, на Каўказе, ва Ўкраіне. Аб'яднала гэтыя якасьці агрэсіўная ваенная дзяржава альбо імпэрыя, ідэалёгія якой выявілася ў формуле "самадзяржаўе-праваслаўе-народнасьць".

Але гэта яшчэ не фашызм. Гэтая імпэрыя ўсходняга азіяцкага кшталту, якая акамулявала тыповыя якасьці фашызму, але заснаваная яна на імпэрскай ідэалёгіі і ўнівэрсальнай сьветапоглядной аснове (у гэтым выпадку – на праваслаўі). Фашызм, тым часам, заўсёды заснаваны на маргінальным сьветапоглядзе групы, якая імкнецца навязаць яго ўсяму чалавецтву.

Маргіналізм у аснове сваёй – вельмі небясьпечная зьява для цывілізацыі, хоць маргінальных групаў процьма, і

***Працяг на наступнай бачыне***

пра існаваньне большасьці зь іх у грамадзтве мала хто ведае. Маргінальная мэнтальнасьць успрымае ўвесь сьвет як памылку, у выніку якой (на думку адэптаў такой мэнтальнасьці) сьвет жыве няправільна і недасканала, і толькі яны, маргіналы, ведаюць, як чалавек павінен жыць правільна. Усе гэтыя “аматары жывёлаў”, “вэгетарыянцы”, “паганцы”, “друіды”, “талерачнікі”, “анархісты”, “гомасэксуалісты”, “фэміністы”, “манархісты” і т. п. успрымаюцца ў сьвеце збольшага цярпіма (пакуль што), як ня надта шкодныя для грамадзтва, але толькі таму, што існуюць на яго ўзьбярэжжы, з абмежаванымі магчымасьцямі. У аснове практычна любога маргіналізму існуе ірацыянальнае імкненьне палепшыць чалавецтва на падставе групавых поглядаў і, адпаведна, тлее нянавісьць альбо неўспрыняцьце існуючага чалавецтва, якое (на іх думку) па памылцы абыякавае да гэтых іхных поглядаў і толькі ім вядомай ісьціны.

Пры адрыве ад ўзбярэжжа і пашырэньні ў грамадзтве маргіналізм схільны ператварацца ў ідэалёгію. Гісторыя ведае выпадкі, калі маргіналізм пранікаў у сацыяльна-палітычную сыстэму ўлады і ў ідэалёгію дзяржавы. Такі сымбіёз якраз і спараджаў фэнамэн фашызму, бо любы маргінальны сьветапогляд ня можа шырока разьвівацца ў грамадзтве натуральным чынам і для агульнага сцьвярджэньня патрабуе гвалту, насільля і прымусу, які найлепш можна ажыцьцяўляць пры дапамозе дзяржаўнай улады.

Надзвычай шкоднымі для цывілізацыі выявіліся маргінальныя ўяўленьні камунізму, якія існавалі здаўна і былі ўвасобленыя пазьней у ідэалягічную сыстэму поглядаў, а потым рэалізаваныя ў сыстэме дзяржаўнай улады ў Расеі.

У Нямеччыне маргінальная сыстэма поглядаў нацыянал-сацыялізму (нацызму) базавалася на тайнай містыцы Ўсходу, згодна якой праектавалася мадэль будучага палепшанага чалавецтва. Тут “будаўнічая” апора дэклявалася не на сацыяльнай аснове (як у расейскім варыянце), а на расавай і нацыянальнай; ашчасьліўленае чалавецтва стваралася паводле нацызму не ў выніку ўсеагульнай роўнасьці ўсіх, калектыўнай працы і разьмеркаваньня яе вынікаў (як паводле камунізму), а ў выніку сыстэмнага сэлекцыйнага адбору людзей па расава-нацыянальнай прыкмеце і стварэньня такім чынам новага чалавека (уйбэрмэнша) з высокімі дасканалымі якасьцямі. Пры тым і нямецкі нацыянал-фашызм, і расейскі камуна-фашызм сэлекцыйную выбракоўку “дэфэктных” людзей (па нацыянальна-расавай і па сацыяльна-клясавай прыкмеце) абгрунтавана зьнішчалі. Адныя ў канцэнтрацыйных лягерох ды крэматорыях іншыя ў ГУЛАГу ды Курапатах.

(Тут мушу зрабіць заўвагу. Любы маргінальны сьветапогляд – гэта, як правіла, адлюстраваньне ўзроўню малаадукаваных абмежаваных, але амбіцыйных людзей. Зьяўленьне такіх асобаў ва ўладзе – гэта параза (а часам і катастрофа) для грамадзтва. Маргіналізм можа апынуцца ва ўладзе ў часы грамадзкіх крызісаў з выкарыстаньнем магчымасьцяў дэмакратыі.)

Такім чынам такія зьявы варварскай дэспатычнай дзяржавы як агрэсія, ксэнафобія, эгалітарызм, жорсткасьць, масавае вынішчэньне людзей дзеля сцьвярджэньня ўлады – гэта ёсьць толькі прыкметы фашызму. Сутнасьць яго выяўляецца ў татальнай уладзе маргінальнай групы, якая валодае маргінальным сьветапоглядам, навязвае яго ўсяму грамадзтву і імкнецца на гэтай падставе перарабіць сьвет шляхам агрэсіі, рэпрэсіяў, сэлекцыі і вайны.

Чалавецтва ўжо перажыло дзьве фашысцкія сыстэмы агрэсіўнай ідэалёгіі: нямецкі нацыянал-сацыялізм (нацызм) і расейскі камунізм. Пры тым камунізм тут трактаваўся як форма расейскага імпэрыялізму. Адмаўленьне ад камунізму не абазначала ў Расеі пазбаўленьне ад магчымасьці іншай формы фашызму, бо засталася імпэрыялістычная дзяржава і ўсе сацыяльныя, мэнтальныя, псыхалягічныя і палітычныя складнікі расейскага фашызму. Не хапала толькі маргінальнай групы, “фюрэра” і маргінальнай ідэалёгіі.

Цяпер ужо ўсё ёсьць. Маргінальная група – гэта НКВД-КГБ-ФСБ, якая валодае цалкам усёй уладай у Расеі, накіроўвае і кантралюе ідэалёгію і дзейнасьць Расейскай праваслаўнай царквы, кантралюе цалкам эканоміку, інфармацыю, навуку, літаратуру і мастацтва і ўсе пласты грамадзтва, ад крымінальнікаў да акадэмікаў і палітыкаў.

Гэтая ж група КГБ вырабіла сабе “фюрэра” Пуціна (гадоў 9-10 таму яго фармальна аб’явілі лідэрам нацыі) і прыстасавала праваслаўную (у дадзеным выпадку тыпова маргінальную) ідэалёгію “русского мира” як апраўданьне агрэсіі і перадзелу сьвету. Таму фашызм, які цяпер адраджаецца ў Расеі ў форме імпэрыял-фашызму, усё часьцей называюць парадаксальным словазлучэньнем “праваслаўны фашызм”. Але бадай што ў гэтым і ёсьць адна з ідэалягічных формаў расейскага імпэрыял-фашызму, якая пашыраецца і не беспадстаўна фіксуецца назіральнікамі.

У гэтай сувязі адзначу характэрную прыкмету. Ужо зьяўляюцца расейцы, якія агалошваюць сваю пазыцыю супраць “праваслаўнага” ці “пуцінскага” фашызму. Праўда, я сумняваюся, што ў Расеі можа цяпер узьнікнуць антыфашысцкі рух. Рухаў там ніколі не існавала. Былі бунты і дэсідэнты. Але ва Ўкраіне, у Данбасе, выявіліся зьявы дастаткова сур’ёзныя, з поўным усьведамленьнем неабходнасьці антыфашысцкай барацьбы супраць расейскай акупацыі.

Прыкладам такой падзеі зьяўляецца нядаўняе стварэньне дабраахвотнага батальёну “Данбас” дзеля народнай барацьбы супраць расейскіх дывэрсантаў і расейскай акупацыі Данбасу. У батальён запісаліся жыхары Данбасу: украінцы, расейцы, беларусы, грузіны і іншыя. Ёсьць таксама дабраахвотнікі і з іншых краінаў (у тым ліку і зь Беларусі). Кіруе батальёнам мясцовы жыхар Данбасу, які выступае пад прозьвішчам Сямён Сямёнчанка. Што адметна, Сямёнчанка – расейскі чалавек, які жыве ва Ўкраіне. Ён прыхільны да Расеі, але айчынай сваёй лічыць Украіну, там, дзе ён нарадзіўся і жыве. Ягоная ацэнка сытуацыі на паўднёвым усходзе Ўкраіны цалкам адэкватная. Ён бачыць гэбоўскую фашысцкую ўладу ў Маскве, якая пачала подлую дывэрсійную вайну супраць Украіны, наслала ў Данбас ня толькі свае пераапранутыя войскі і спэцназ ГРУ, але і тысячы ўзброеных бандытаў, гопнікаў, казакаў, каўказскіх наёмнікаў і крымінальнікаў, якія падабралі ў свае шэрагі групы такіх жа данбаскіх элемэнтаў, што за грошы гатовыя забіваць і ўдзельнічаць у дывэрсійнай вайне. Данбас пагрузіўся ў балота хаосу, бандытызму, марадзёрства. Слабая ўкраінская армія, зьвязаная абмежаванымі правіламі “антытэрарыстычнай” апэрацыі (якую прыдумалі ў Кіеве супраць расейскай агрэсіі) ня ў стане хутка паправіць становішча. Тым больш, што праз слаба абароненую мяжу пастаянна прыбываюць войскі, баевікі і ўзбраеньне з Расеі.

Вось тут і зьявіліся людзі, якія вырашылі самыя бараніць сваё месца жыхарства і сваю рэальную айчыну ад крымінальна-фашыстоўскай навалачы з Усходу. Тут прынцып грамадзянскай салідарнасьці супраць фашызму, акупацыі і разбою. Фальшывая дактрына “русского мира” тут не спрацавала, бо ёсьць рэчы сур’ёзнейшыя, чым ідэалягічныя схемы, сфармуляваныя дзеля апраўданьня агрэсіі і вайны.

"Рэчы больш сур'ёзныя" – гэта небясьпека разбою і расейскага фашызму ў Данбасе, пагружэньне грамадства ў дыктатуру расейска-каўказскай мафіі, а таксама разуменьне таго, што дэмакратычная дзяржава дасьць больш шанцаў яе грамадзянам, чым фашысцкая аўтарытарная гэбоўская Расея. Вось прадпасылкі сьведамага змаганьня грамадзянаў Украіны (незалежна ад этнічнай прыналежнасьці) супраць расейска-фашыстоўскіх агрэсараў за мірную, вольную Ўкраіну.

Дактрына "русского мира" яшчэ пасыпецца ня толькі ва Ўкраіне, але і ў Беларусі, і ў Летуве, і на Каўказе (там яна ўжо і ня дыхае) – усюды, куды спрабуе сунуцца валасатае мурло пуцінскага фашызму.

Ня трэба перабольшваць імпэрскіх магчымасьцяў Масквы, але лепш пачаць ужо цяпер рыхтавацца да адбіцьця фашысцкай агрэсіі, маючы на ўвазе вопыт Украіны і пазьбягаючы ўкраінскіх памылак.

У мінулы раз я пісаў пра неабходнасьць назапашваць зброю, выбухоўку, яднацца ў невялікія (дзьве-тры асобы) групы і нічога пакуль не рабіць – чакаць неабходнага часу, бо ня выключана, што Пуцін палезе і ў Беларусь. Яго трэба сустрэць востра, цьвёрда і рашуча.

Пры гэтым неабходна ўсьведамляць, што расейска-ўкраінская вайна – гэта і наша вайна. Там вырашаецца будучыня ня толькі вольнай Украіны, але і вольнай Беларусі. Калі пуцінскія фашысты падаб'юць Украіну, то яны нападуць і на Беларусь, і нам ня будзе каму дапамагчы. Таму дапамагайма Ўкраіне. Заклікаю беларускіх мужчын, якія могуць валодаць зброяй, ехаць дабраахвотнікамі на Ўкраіну і ўступаць у атрады Ўкраінскага супраціўленьня акупантам (тыпу "Данбас"). Беларуская дапамога патрэбная і ўкраінцам, і беларусам. Акрамя таго, ваюючы за Ўкраіну, беларусы набудуць вайсковы вопыт барацьбы з фашызмам, які можа вельмі прыдасца потым у Беларусі.

Будзьма вартыя нашых слаўных продкаў ліцьвінаў, якія пасьпяхова напрацягу пяцісот гадоў баранілі сябе і нашае дэмакратычнае Вялікае Княства Літоўскае і ўратавалі манархічную Эўропу ад маскоўска-мангольскай арды. Фашызм павінен быць ліквідаваны, агрэсіўная імпэрыя разбурана. Яднаймася – будзем моцнымі. Змагаймася – пераможам!

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Да 70-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад фашызму

У гэтым месяцы рэжым Лукашэнкі рыхтуе грандыёзныя сьвяткаваньні, прысьвечаныя 70-м угодкам вызваленьня ад нямецкага фашызму. Дзень вызваленьня чамусьці называецца Днём Рэспублікі, а заадно – Днём Незалежнасьці, хоць вызваленьне ад адной сьмерцедайнай сілы праз прыход другой, ненашмат лепшай, цяжка прызнаць сьвятам. Няпэўнасьць і нелягічнасьць, а таксама нутраныя супярэчнасьці ідэалягічнай пабудовы, якая завецца "перамога над фашызмам", відаць простым вокам. Перш за ўсё – падзеі й вынікі Другой сусьветнай вайны ў Беларусі закрытыя для свабоднага, нецэнзураванага, непрадузятага дасьледаваньня і абмеркаваньня. Міты пра герояў-партызанаў і непераможную Чырвоную армію складаюць зьмест адукацыі, напаўняюць масавыя сродкі, складаюць падваліны лукашэнкавай так званай "дзяржаўнай ідэалёгіі".

Пры гэтым падзеі таго далёкага ўжо часу, сьведкаў якога застаецца ўсё менш і менш, успрымаюцца ды інтэрпрэтуюцца не зь беларускага пункту гледжаньня, не з пазыцыяў каштоўнасьці або шкоднасьці менавіта для беларускага народу, беларускага этнасу. Зусім не. Тое, што добра для савецкай (цяпер расейскай) імпэрыі, для расейскага этнасу, аўтаматычна запісваецца ў пазытыў і беларусам. І гэта нічога, што непераможная Чырвоная армія кінула Беларусь нямецка-фашыстоўскім акупантам, як кідала яе ў 1919 годзе палякам, а расейскае царскае войска французам у 1812 годзе і немцам у 1915. Беларусь для расейскіх уладаў – і царскіх, і камуністычных – была ня больш як дыванок пры дзьвярах – маўляў, хай сабе чужынцы патопчуцца па ёй, можа ня пойдуць далей у хату.

Таму цяпер, ужо ў незалежнай Беларусі, сьвяткаваць незайздросную долю дыванка пры чужых дзьвярох, які нарэшце падняліі ды абтрэсьлі, мізэрна і ганебна. Яшчэ больш ганебна тое, што ўслаўляюцца вайсковыя злачынцы – савецкія партызаны, якія, выконваючы загад Сталіна аб "пашырэньні ўсенароднай барацьбы" залілі Беларусь, разам зь немцамі, морам агню і крыві. Сьведама правакуючы нямецкіх акупантаў на рэпрэсіі супраць беларускага жыхарства, але і таксама ўласнаручна забіваючы, палячы, гвалцячы, тыя, кіраваныя з Масквы, засланцы зрабілі ўсё, каб вынішчыць рэшты беларускасьці ня толькі ў яе нацыянальна-культурным, але нават у біялягічным выглядзе. Больш таго, тое злачынства, страта чвэрці насельніцтва падчас вайны, зрабілася падставаю для гонару манкуртаў – камуністычных кіраўнікоў паваеннай Беларусі – што нізкападдана даносілі аб гатоўнасьці Беларусі зрабіцца ўзорам дэнацыяналізаванай расейскім этнацыдам "камуністычнай будучыні".

Імкнучыся выцiснуць з расейскіх лялькаводаў нафтагазавыя дывідэнды, постсавецкі рэжым Лукашэнкі праклямаваў без уцямных тлумачэньняў, што, аказваецца, гераічны беларускі народ-партызан страціў ня чвэрць, але ўжо трацiну сваёй колькасьці падчас Другой сусьветнай вайны. Маўляў, "мы за вас кроў лілі – цяпер давайце прэфэрэнцыі, адмяняйце квоты й падаткі". І што сказаць – сапраўды, і далі, і адмянілі. Але ці дадае гонару беларускаму народу гэткі гандаль на найвялікшай катастрофе 20-га стагодзьдзя, на сьлязах і крыві папярэдніх пакаленьняў беларусаў? Чаму ня ўспомніць у такім выпадку найвялікшую катастрофу 17-га стагодзьдзя, калі ад войскаў маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча загінула каля паловы насельніцтва, або Паўночную вайну пачатку 18-га стагодзьдзя, калі ў выніку "бліскучых геніяльных перамогаў" цара Пятра І і спадарожных ім мору і хваробам колькасьць насельніцтва Беларусі скарацілася на трэць. Можа і пад гэта таксама можна было б нешта выцыганіць у Ельцына і ў Пуціна?

Безумоўна, нямецкі фашызм у Беларусі быў жудасная зьнішчальнай сілай. Але хто дапамог яму з падставамі да нечуваных зьверстваў і злачынстваў, пра якія немцы й ня думалі ў першыя год-два вайны й акупацыі? Хто мэтанакіравана рабіў нэўтральнае, звычайнае жыцьцё ў беларускіх вёсках – крыніцы беларускасьці, традыцыяў, мовы – немажлівым і невыносным? Хто, ня лічачыся з чалавечымі стратамі, выконваў загады далёкіх гаспадароў? Раней ці пазьней беларускі народ атрымае адказы на гэтыя пытаньні.

А пакуль па гарадох і вёсках Беларусі будзе каціцца вакханалія сьвята перамогі адных чужынцаў над другімі, варта яшчэ раз задумацца над тымі крывавымі падзеямі 70-гадовай даўніны і тым, якія сапраўдныя высновы мусіць зрабіць зь іх для сябе кожны думаючы беларус.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Жыць стала лепш, жыць стала весялей”

*(У кантэксьце разьвіцьця прадпрымальніцтва ў Беларусі)*

*“Я пацісну руку апошняму прадпрымальніку”*
***А. Лукашэнка**, 2005 г.*

Афарызм “жыць стала лепш, жыць стала весялей”, агучаны І. Сталіным у лістападзе 1935 году перад працоўнымі-стаханаўцамі напярэдадні масавых рэпрэсіяў 30-х гадоў XX-га стагодзьдзя, можна экстрапаляваць на ўсе таталітарныя і аўтарытарныя рэжымы з камандна-адміністратыўнымі эканомікамі, якія імкнуцца выставіць на агляд свае сумніўныя “посьпехі”.

У апошнія гады беларускія ўлады піяраць свае дасягненьні ў галіне стварэньня ўмоваў вядзеньня бізнэсу і разьвіцьці прадпрымальніцтва. Так званая “лібэралізацыя” заканадаўства сапраўды прасунула Беларусь у сусьветным рэйтынгу краінаў па вядзеньню бізнэсу наперад (у 2013 годзе 64 месца з 189, у 2014 – 63). Дзеля параўнаньня: па выніках 2014 году былая савецкая рэспубліка Грузія заняла 8-е месца, суседняя Польшча – 45-е. Што на самой справе ўключае ў сябе паняцьце вядзеньне бізнэсу, і ў якой ступені яно адпавядае сучасным беларускім рэаліям?

Дзеля разьвіцьця бізнэсу дзяржаваю павінны быць створаныя спрыяльныя ўмовы, сярод якіх: павольны ўваход на рынак, гэта значыць, спрошчаная рэгістрацыя і ліквідацыя суб’ектаў гаспадаркі; збалянсаваная падатковая палітыка; разумная кантрольна-рэвізійная дзейнасьць; адсутнасьць татальнага кантролю за коштаўтварэньнем і гэтак далей і далей.

Што тычыцца першага моманту, уваходжаньня на рынак, то з 1999 да 2009 гаду ў Беларусі дзейнічаў Дэкрэт Лукашэнкі № 11 ад 16 сакавіка 1999 г., які рабіў працэс рэгістрацыі бізнэсу занадта марудным і доўгім. Беларускія ўлады вырашылі стварыць у вачах Захаду і патэнцыйных інвэстараў выгляд, што сытуацыя зьмяняецца. Дзеля гэтага быў сьпешна падрыхтаваны новы Дэкрэт № 1 ад 16 студзеня 2009 г., па якому тэрмін падрыхтоўкі рэгістрацыйных дакумэнтаў быў скарочыны з 15 да 5 працоўных дзён, прычым пасьведчаньне аб дзяржаўнай рэгістрацыі можна было атрымаць ужо ў дзень рэгістрацыі. Сама па сабе гэта вельмі добрая справа і, у прынцыпе, значна спрашчае жыцьцё будучым прадпрымальнікам. Але гэта толькі першы крок, які, на жаль, выкарыстоўваецца ў якасьці рэклямы.

Так, многія памятаюць афіцыйны візыт былога прэзыдэнта Расеі Д. Мядзведзева ў Сінгапур у лістападзе 2009 году, дзе ён сымбалічна зарэгістраваў рэстаран расейскай кухні праз тэлефонны інтэрнэт усяго за 8 хвілін. Уся працэдура заняла ў яго 20 хвілін – набыць 3 ліцэнзіі і заплаціць за ўсё $100. Пагадзіцеся, добры піяр для краіны і шыкоўныя ўмовы дзеля вядзеньня бізнэсу пры наяўнасьці ўсіх астатніх кампанэнтаў, якія ў Сінгапуры, безумоўна, ёсьць (на працягу мінулых гадоў краіна ўстойліва займае першую прыступку вышэйузгаданага рэйтынгу).

У апошні дзень 2010 году Лукашэнка выдаў вядомую і апошнюю пакуль Дырэктыву № 4 “Аб разьвіцьці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляваньні дзелавой актыўнасьці ў Рэспубліцы Беларусь”, галоўным прынцыпам якой такі: “Канкурэнцыя – паўсюль, дзе магчыма, дзяржаўнае рэгуляванне – там, дзе неабходна”. Што на самой справе?

Падаткі ў Беларусі высокія, а працэдура вельмі марудная, займае шмат часу, каб штомесячна запаўняць усе кнігі, паперы, якія неабходныя для сплаты падаткаў. Частая зьмена заканадаўства вядзе да таго, што ўсё больш дробных прадпрымальнікаў не “падпадаюць” пад спрошчаную сыстэму падаткаабкладаньня. А між іншым, “крывую Лафэра” яшчэ ніхто не адмяняў, гэта павінны былі б ведаць спадары зь беларускага ўраду.

Загад “Аб паляпшэньні кантрольна-надзорнай дзейнасьці” ад 2009 году прывёў да адваротнага эфэкту. Яны сталі больш цэнтралізаваныя і комплексныя. І няпраўда, што яны могуць адбывацца толькі раз у два гады ці ў пяць гадоў, у залежнасці ад групы “рызыкі” прадпрыемства ці індывідуальнага прадпрымальніка, яны могуць быць нашмат часьцей.

У чэрвені сёлета прэм’ер-міністар Мясніковіч заявіў, што імпарт замежнай прадукцыі павінен складаць ня больш за 15% ад усяго аб’ёму тавараў на айчынным рынку. На думку экспэртаў, гэты крок паставіць буйныя і сярэднія гандлёвыя сеткі на мяжу спусташэньня.

Апошнім крокам стаў падпісаны Лукашэнкам загад № 222 (добра, што не 227) ад 16 траўня 2014 году аб сэртыфікаваньні прадпрымальнікамі прадукцыі, якую яны завезьлі з краінаў Мытнага саюзу (Расея і Казахстан), інакш яны ня змогуць гандляваць (дагэтуль у гэтым накірунку ў беларускага ўраду пытаньняў не было). Гэты загад ставіць многіх прадпрымальнікаў Беларусі таксама на грань зьнішчэньня, бо яны закупалі і закупляюць прадукцыю ў такіх жа расейскіх калегаў, якія ня маюць адпаведных сэртыфікатаў і ня могуць іх выдаць беларусам, бо такія ўрадам суседняй краіны не патрабуюцца. У расейскіх прадпрымальнікаў нават зьявіўся ганебны жарт: “Дурням і беларусам даведкі не выдаем”. Напярэдадні падпісаньня загаду, прайшлі забастоўкі прадпрымальнікаў у Віцебску, Менску і іншых гарадах, але гэта не спыніла Лукашэнку.

Аб рызыках замежных інвэстараў і размаўляць няварта. Трэба толькі прыгадаць, што здарылася з галоўным акцыянэрам беларускіх кандытарскіх флягманаў “Камунарка” і “Спартак” амэрыканскім грамадзянінам Маратам Новікавым, уласнасьць якога была фактычна канфіскаваная беларускім урадам.

На самой справе, атрымліваецца нейкі валюнтарызм. Па ўсяму відаць, што жыць ня стала лепей, але што “весялей”, дык гэта дакладна.

***Аляксандар СОЛАД***

# Чэрвеньскі сход “Пагоні”

***Заканчэньне з бачыны 2***

туры, назапашваць і перахоўваць стратэгічныя матэрыялы, ведаць, дзе і як можна пры нагодзе здабыць выбухоўку, аўтаматычную зброю, сродкі сувязі, цеплавізары і г. д. Трэба арганізоўвацца ў групы па трое, пяцёра – калі толькі адзін мае выхад на іншую пяцёрку і далей на цэнтральную кіруючую структуру. Трэба рыхтавацца да вялікага, працяглага, ня выключана крывавага і жорсткага змаганьня. Час патрабуе ахвярнасьці, рэальнага выпрабаваньня прыгожых і правільных словаў пра адданасьць народу і Бацькаўшчыне. І цяпер мы бачым, што ёсьць сярод нас мужныя, ахвярныя людзі. Прыклад беларуса Жызьнеўскага, што адным зь першых загінуў на Майдане за свабоду братняга ўкраінскага народу, прыклад соцень беларусаў, што далучаюцца цяпер да баталёнаў па абароне сувэрэнітэту Ўкраіны на яе ўсходніх межах, павінен змусіць задумацца і прыняць вырашальныя крокі тысячам беларускіх людзей, што ня бачаць для сябе існаваньня ва ўмовах акупацыі й зьнішчэньня беларускай дзяржаўнасьці.”

Прамова сп. Зянона Пазьняка была зь вялікай увагай выслуханая прысутнымі. Прамоўца затым адказаў на пытаньні ўдзельнікаў сходу.

Потым у разьдзеле “Рознае” адбылося знаёмства прысутных з гасьцямі Згуртаваньня “Пагоня”. Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі ўдзельнікі мелі магчымасьць знаёміцца, калегавацца, абменьвацца інфармацыяй за сьціплымі пачастункамі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Застацца ў гісторыі

## Цэнтар камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа

Лёсы архіваў беларускіх дзеячаў і арганізацыяў у замежжы – складаная, а часам і трагічная старонка айчыннай гісторыі. Можна прывесьці дзесяткі прыкладаў зьнікненьня ці нават сьвядомага зьнішчэньня каштоўных збораў нашчадкамі або нейкімі структурамі. Разам з тымі дакумэнтамі зьнікае вялікі пляст інфармацыі і сам даробак суродзічаў за мяжой. Яны застаюцца нябачнымі і для дасьледчыкаў, і, як вынік, для шэраговых суайчыньнікаў.

У Беларускім дзяржаўным архівемузэі літаратуры і мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва “Цэнтар камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа”. Стварэньне такой структуры зьвязана з неабходнасьцю сыстэматычнага зьбіраньня дакумэнтаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі па-за межамі мэтраполіі. Калі раней функцыі такога зьбіраньня ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуская Бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане, або Цэнтар Ф. Скарыны ў Менску, дык цяпер, з пашырэньнем геаграфіі беларускіх дыяспар, сыстэматычнага мэтанакіраванага зьбіраньня даробку замежных суайчыньнікаў не вядзецца. У выніку, каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны губляецца для сучасных і будучых дасьледчыкаў.

Паводле задумы, новы Цэнтар прызначаны для садзейнічаньня выяўленьню, захаваньню, апісаньню, вывучэньню і папулярызацыі дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа на базе Беларускага дзяржаўнага архіва-музэя літататуры і мастацтва.

Варта адзначыць, што ў БДАМЛіМ на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў ужо ішло паступовае зьбіраньне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды перадалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. Нядаўна ў архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакумэнтаў згаданага ўжо вышэй Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Такім чынам, новастворany Цэнтар мае добрую базу для сваёй дзейнасьці.

Сярод задач Цэнтру можна адзначыць выяўленьне беларускіх дакумэнтаў у замежных архівах, музэях і бібліятэках, зборах арганізацый беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў; арганізацыю камплектаваньня і стварэньне архіўных фондаў беларускіх грамадзка-культурных арганізацый замежжа і дзечаў беларускіх дыяспар у складзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музэя літаратуры і мастацтва; навуковае апісаньне дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа; спрыяньне яе навуковаму вывучэньню; папулярызацыя ў беларускім грамадзтве ведаў пра дзейнасьць за мяжой беларускіх арганізацыяў, выдатных асобаў беларускага паходжаньня. Мяркуецца ажыцьцяўляць кансультаваньне зацікаўленых асобаў па пытаньнях захаваньня і вывучэньня дакумэнтаў, публікацыю матэрыялаў на падставе сабраных архіваў.

Сёньня надзвычай важным ёсьць зьбіраньне дакумэнтаў і друкаў дзеючых арганізацыяў і суполак, а таксама захаваньне архіваў дзеячаў замежжа. Таму Цэнтар спадзяецца наладзіць цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі як за мяжой, так і ў Беларусі, каб ня даць зьнікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа.

У справе супрацоўніцтва па пытаньнях, зьвязаных з захаваньнем і вывучэньнем замежнай беларусікі, можна зьвяртацца да дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыкі або гісторыка Натальлі Гардзіенкі.

**Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва**
Сайт: *http://bdamlm.by*
Адрас: *Мінск, вул. Кірыла і Мефодыя, 4*
Тэл.: *+375(17)3274781*
E-mail: *bdamlim@tut.by; nhardzijenka@gmail.com*

**Наталля ГАРДЗІЕНКА**

# Купальле ў Нью-Ёрку

*Заканчэньне з бачыны 1*

вогнішча, вакол якога ўдзельнікі пад кіраўніцтвам спэцыялісткі ў беларускай этнаграфіі й музыкалёгіі сп-ні Валянціны Якімовіч хадзілі карагодамі й сьпявалі купальскія песьні, у тым ліку знакамітыя “Купалінку”, “Ой рана на Йвана”. Затым былі традыцыйныя гульні, “Падушачка”, “Баяры”, калі хлопцы звычайна бліжэй знаёміліся й сыходзіліся зь дзяўчатамі. Трохі пазьней, калі ўжо стала цёмна, нячысьцікі скралі Купалінку, а Князь-Купаліш і ягоная дружына мусілі выпраўляцца на яе пошукі і выратаваньне.

Калі вогнішча ўжо дагарала, Купалінку выратавалі, і жадаючыя маглі паскакаць праз агонь, што меў сымболіку ачышчэньня, збаўленьня ад грахоў.

Потым зварыўся традыцыйны напой на шматлікіх травах – крупнік. А потым пры вогнішчы прысутныя сьпявалі купальскія ды іншыя беларускія песьні. Некалькі сваіх песень засьпяваў паэт і выканаўца Сяржук Сокалаў-Воюш. Сьпевы і размовы цягнуліся да сьвітаньня.

Падзяка ў арганізацыі Купальля і прадрыманьні гэтай старадаўняй традыцыі далёка ад Бацькаўшчыны належыцца спадарству Рыжым і Валянціне Якімовіч.

**Віталь ЗАЙКА**



# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Ураўнілаўка

Калісьці, даўным-даўно, а можа ня так ужо і даўно, амэрыканцы верылі, што праз цяжкую, мэтанакіраваную працу чалавек меў шанец стаць найлепшым. Лічылася, што быць найпрыгажэйшым, найпасьпяховейшым, найталенавіцейшым, найпрацавіцейшым – гэта ня толькі добра і правільна, але неабходна для кожнага, хто хоча прэтэндаваць на тое, каб быць амэрыканцам. Сёньня наадварот, сапраўдны амэрыканец абавязаны быць абыякім, посным, безаблічным, статыстычным, пазбаўленым нестандартных якасьцяў, шэрым сярэднячком бяз роду і племені. І гэты адварот на 180 градусаў зусім не выпадковы. Амэрыканская ўраўнілаўка пачынаецца з раньняга дзяцінства. Падчас тэставаньня здольнасьці чытаньня, пакуль, праўда, яшчэ толькі ў некаторых школах, дзецям забаронена даваць тэксты, якія маглі б выклікаць у іх адмоўныя рэакцыі. Да зоны небясьпечных тэмаў адносяцца згадкі пра горы (ня ўсе дзеці мелі магчымасьць бачыць горы), сьнег (ня ўсе дзеці мелі магчымасьць бачыць сьнег), мора (ня ўсе дзеці мелі магчымасьць бачыць мора), калецтва (напрыклад, сьлепату), жанчын, якія вышываюць або гатуюць (гендэрная ідэалёгія), шыкоўныя дамы (бо некаторыя жывуць у трушчобах), старых людзей, якія хварэюць (бо старыя людзі, паводле ідэолягаў, заўжды здаровыя, вясёлыя і поўныя энэргіі!). Адмыслова створаныя камісіі па “прадузятасьці і далікатнасьці мовы” дбаюць пра тое, каб да дзяцей даходзілі толькі тыя тэксты, якія пазбаўленыя якога б там не было стэрэатыпу. Ідэальны тэкст для чытаньня ў школе той, які быў напісаны не раней за 1970 год, і які не выклікае абсалютна ніякіх асацыяцыяў, бо, паводле сучаснай дактрыны, любая асацыяцыя, адметнасьць, мэтафара, алюзія або параўнаньне зьяўляюцца патэнцыйнымі каталізатарамі сацыяльнага канфлікту. Каго цікавіць праблематыка лібэральнага фашызму адсылаю да кніжкі “The Language Police” Diane Ravitch.

Невыпадкова марксысцкая сыстэма стандардызацыі і ўраўненьня дабралася ўрэшце і да лялькі Барбі. Быць дасканала зграбнай, сінявокай бляндынкай у сёньняшняй Амэрыцы, як мінімум, непаліткарэктна. Узор, на які арыентаваліся пакаленьні маладых амэрыканак, цяпер пачынаюць закляймоўваць як занадта патрабавальны і нерэалістычны. Таму амэрыканец Нікалай Лэм стварыў прататып лялькі Лэмілі – „звычайнай Барбі”, памеры якой узятыя з ураўняных дадзеных CDC (Цэнтру кантролю захворваньняў і прафіляктыкі) для сярэднестатыстычнай 19-гадовай амэрыканкі. У выніку атрымалася шэранькая, каротканогая мышка, галоўная рыса якой – шчыльна ўпакаваны і, што тут хаваць, як на новазабароненыя стандарды, тлуставаты, немадэльны азадак. Заклапочаныя сваімі ўласнымі памерамі амэрыканскія мацеркі ад гэтай вынаходкі ў поўным экстазе. Цяпер, калі Нікалай здолее атрымаць фінансаваньне пад свой ураўнілаўскі праект, яны змогуць урэшце купіць сваім дачкам „рэалістычныя” лялькі з “сапраўднымі людзкімі прапорцыямі”. Застаецца здагадвацца, што наступным этапам павінна стаць забарона на прадукцыю і продаж лялькі Барбі, як нерэалістычнай, несапраўднай і нялюдзкай. Карацей кажучы – гайда ўсіх пад адзін грэбень!



**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é äõâÿðàâàíí³:

А. Дубавая ....................60
Н. Нікіціна ....................60
М. Цітова .....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў нядзелю **13 ліпеня 2014 г.** у Цэнтральным парку на Мангэтане пасьля імпрэзы адкрыцьця Тыдня Паняволеных Народаў.

Збор удзельнікаў Маршу Паняволеных Народаў **а 9-й гадзіне раніцы** ля гатэля Пляза на 59-й вул. і 5-й авэню. (*Гл. падрабязную абвяву на 1-й бач.*)

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

З. Левіт ........................30
А. Нікіперовіч ...............30
Н. Нікіціна ....................30
М. Цітова .....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*

*Паважаныя **Т. Асташка, Я. Бандарык, А. Бахчэеў, А. Ґенечка, С. Ґехт, У. Жлукцёнак, В. Мытнік, М. Папкова,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі поштаю ці емэйлам вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*